Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

26 КРАСАВІКА 1927 г.

№ 8 (33)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# Зьмест.

## Частка афіцыйная.

## Частка неафіцыйная.



---

## ПАПРАЎКА.

У Бюлетэні № 7 (32) на стар 12 у 3-ім радку зьнізу надрукавана: „фабрычна-заводзкімі мясцовымі камітэтамі", трэба чытаць: „фабрычна-заводзкія мясцовыя камітэты".

---

## 1. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ ПАРАДКУ АДВОДУ ВУЧАСТКАЎ ЗЯМЛІ ДЛЯ ЛЕСАПРАМЫСЛОВЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ПАД СКЛАДЫ ЛЕСАМАТАР'ЯЛАЎ.

Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР ўстанаўляе наступны парадак адводу вучасткаў зямлі пад склады лесаматар'ялаў.

1. Адвод вучасткаў з зямель працоўнага карыстаньня, дзяржаўнай зямельнай маемасьці і пазасядзібных зямель гарадоў і мястэчак пад склады лесаматар'ялаў для патрэбы лесапрамысловых арганізацый робіцца прымусовым парадкам як у бестэрміновае карыстаньне, так і на вызначаны тэрмін.

2. Адвод вучасткаў у бестэрміновае карыстаньне робіцца: а) у гарадох і мястэчках органамі, кіруючымі камунальнаю гаспадаркаю, паводле „Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох" і б) у мясцовасьцях па-за гарадамі і мястэчкамі—зямельнымі органамі на агульных падставах, паводле арт. арт. 21 і 22 Зямельнага Кодэксу.

3. Неабходнасьць, па заяўках лесапрамысловых арганізацый, адводу ім зямельных вучасткаў для часовага карыстаньня і вызначэньне месца самога адводу ўстанаўляецца раённымі выканаўчымі камітэтамі, а ў гарадох і мястэчках—органамі кіруючымі камунальнаю гаспадаркаю. Самы адвод вучасткаў выконваецца раённымі выканаўчымі камітэтамі з удзелам сельсавету і зацікаўленых старон, а ў гарадох і мястэчках—органамі, кіруючымі камунальнаю гаспадаркаю. Сталыя землякарыстальнікі атрымоўваюць ад лесапрамысловых арганізацый плату за карыстаньне адведзенымі вучасткамі.

*Увага.* У межах гарадоў і мястэчак прымусовы адвод можна рабіць толькі на землях, якія знаходзяцца за сядзібнай мяжой. У сядзібнай мяжы вучасткі адводзяцца па згодзе з органамі, кіруючымі камунальнаю гаспадаркаю.

4. Разьмер кампэнсацыі за адвадзімыя для паказаных патрэб вучасткі зямель устанаўляецца: па-за гарадамі і мястэчкамі—камісіяй у складзе прадстаўніка ад раённага выканаўчага камітэту, старшыні сельсавету і раённага агранома, пад старшынством першага, пры ўдзеле зацікаўленых старон з правам дарадчага голасу; у гарадох і мястэчках—камісіяй у складзе прадстаўніка органаў, кіруючых камунальнай гаспадаркай, члена гарадзкога альбо местачковага савету і супрацоўніка тэхнічнага нагляду камунальнай гаспадаркі (тэхніка, каморніка, агранома або інш.) пад старшынством першага.

5. Апроч кампэнсацыйнай платы за часовы адвод вучастку з лесапрамысловае арганізацыі спаганяецца, перад адводам, спэцыяльная сума ў якасьці залогу для забясьпекі выкананьня лесапрамысловымі арганізацыямі абавязкаў па ачыстцы вучасткаў ад шчэпак, гальля і інш. і прывядзеньня іх ў ранейшы від. Разьмер гэтае сумы

ўстанаўляецца камісіяй, прадугледжанай арт. 4 гэтай пастановы. Памянёны залог уносіцца ў касу раённага выканаўчага камітэту ў дэпазыт апошняга, а ў гарадох і мястэчках—у фінансавыя органы на рахунак кіруючых камунальнай гаспадаркай органаў.

6. Для вылічэньня разьмеру кампэнсацыйнай платы за вучасткі зямлі, якія адводзяцца пад склады лесаматар'ялаў для дзяржаўных, каапэрацыйных і іншых грамадзкіх лесапрамысловых арганізацый устанаўляюцца наступныя мінімальныя і максымальныя разьмеры гэтай платы:

| №№ па парадку | Віды ўгодзьзяў. | Разьмер гадавое кампэнсацыйнае платы за гэктар у рублёх. АД | ДА |
|---|---|---|---|
| 1. | Няўдобныя балотныя і пяшчаныя землі, зданыя толькі пад выган для жывёлы ў залежнасьці ад адлегласьці ад сядзібы . . . | 10 | 20 |
| 2. | Выганы ў залежнасьці ад якасьці травы і блізасьці ад сядзіб . . . . . . . . . . . . . . | 15 | 50 |
| 3. | Пахатныя вучасткі ў залежнасьці ад якасьці глебы і ступені іх угнаеньня . . . . . . | 20 | 100 |
| 4. | Сенажаці ў залежнасьці ад іх ураджайнасьці . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 30 | 125 |
| 5. | Гародныя вучасткі ў залежнасьці ад адлегласьці іх ад рынку збыту і даходнасьці. . | 50 | 200 |

*Увага.* У межах гарадоў і мястэчак (па сьпісу, апублікаванаму ў Збор. Зак. і Заг. Ураду БССР за 1925 г. № 31, арт. 293) мінімальныя разьмеры кампэнсацыйнай платы павінны быць ня ніжэй ставак асноўнай і дадатковай зямельнай рэнты, устаноўленых для гарадоў альбо мястэчак, калі займаемыя віды ўгодзьдзяў абкладаюцца рэнтай. Калі памянёныя ўдоб'і не падлягаюць абкладаньню зямельнай рэнтай, мінімальныя разьмеры платы павялічваюцца супроць разьмераў, зазначаных у табліцы для балотных і пяшчаных (п. 1 табліцы) у два разы, для выганаў, пахатных, сенажацяй і гародных вучасткаў (п. п. 2—5 табліцы) у 1,5 разы. Максімальныя разьмеры платы ўстанаўляюцца для ўгодзьдзяў, зазначаных у п. 1 табліцы, ня больш як у два разы супроць мінімальных; для ўгодзьдзяў, паказаных у п. п. 2, 3, 4 і 5 табліцы—ня больш, як у 4 разы супроць мінімальных ставак тых самых угодзьдзяў.

7. Калі пры адводзе вучасткаў для карыстаньня іх патрабуецца правядзеньне спэцыяльных дарог, то плошча іх уключаецца пры вылічэньні кампэнсацыі ў агульную плошчу вучасткаў. Такія дарогі, пры патрэбе ахowы пасеваў і траў ад шкоды павінны агароджвацца лесапрамыслоўцамі.

8. Кампэнсацыя выплачваецца лесапрамысловымі арганізацыямі землякарыстальнікам пры адводзе вучастку за год уперад. Наступныя ўзносы кампэнсацыйнай платы робяцца таксама за год уперад, калі вучастак застаецца ў карыстаньні лесапрамысловых арганізацый некалькі год.

9. Аплата падаткаў і рознага роду дзяржаўных павіннасьцяй за вучасткі, якімі часова карыстаюцца лесапрамысловыя арганізацыі, належыць да абавязкаў сталых землякарыстальнікаў.

10. Парадак разьмеркаваньня кампэнсацыі паміж грамадзянамі, у якіх займаецца зямля лесапрамысловымі арганізацыямі, вырашаецца камісіяй, якая прадугледжана артыкулам 4 гэтае пастановы, адначасна з устанаўленьнем разьмеру гэтай кампэнсацыі.

11. Пасьля сканчэньня тэрміну карыстаньня вучасткамі, лесапрамысловыя арганізацыі ў прысутнасьці старшыні сельсавету перадаюць іх папярэднім карыстальнікам, аб чым старшынёй сельсавету складаецца асобны акт, у якім запісваюцца: становішча вучастку адносна яго засьмячэньня і выніку згоды старон аб устанаўленьні разьмеру платы за ачыстку яго і прывядзеньне ў ранейшы від. У гарадох і мястэчках вучасткі перадаюцца ў прысутнасьці прадстаўніка ад органаў, кіруючых камунальнаю гаспадаркаю, які складае памянёны акт.

12. Лесапрамысловыя арганізацыі маюць права скарыстоўваць вучасткі зямлі, якія ім адведзены пад склады лесаматар'ялаў, толькі па прызначэньні, прадугледжаным артыкулам 1 гэтае пастановы.

13. Дзейнасьць гэтых правіл пашыраецца толькі на вучасткі, якія адводзяцца для дзяржаўных устаноў і арганізацый, а таксама каапэрацыйных і іншых грамадзянскіх арганізацый. Прыватныя лесапрамыслоўцы маюць права на часовы адвод ім вучасткаў толькі па ўзаемнай згодзе з землякарыстальнікамі на арэндных умовах, пры гэтым у гарадох і мястэчках з дазволу на гэта органаў, якія ведаюць камунальнаю гаспадаркаю.

Нам. Старшыні Эканамічнае Нарады пры
Савеце Народных Камісараў БССР **С. Карп.**

Адказны Сэкратар Эканамічнае Нарады пры
Савеце Народных Камісараў БССР **В. Крывіцкі.**

8 сакавіка 1927 г.

---

## 2. Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

АБ УДЗЕЛЕ РЭВІЗІЙНЫХ КАМІСІЙ У ПРАЦЫ ПА ЗЬНІЖЭНЬНЮ ЦЭН.

*(Вынікі нарады рэвізійных камісій гандлева-каапэрацыйных устаноў пры НК РСІ БССР).*

1. Калегія Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, па матар'ялах нарады рэвізійных камісій гаспадарчых і каапэрацыйных арганізацый, сьцьвярджае, што дзейнасьць рэвізійных камісій у працы па зьніжэньню цэн да гэтага часу выстарчальна не разгорнута, і формы практычнага іх удзелу ў гэтай працы ня выявіліся, што неабходна лічыць адным з недахопаў у галіне правядзеньня дырэктыў па зьніжэньню цэн.

2. Для ўзмацненьня ўдзелу рэвізійных камісій у працы па зьніжэньню розьнічных цэн, лічыць неабходным:

а) Арганізацыю сыстэматычнага нагляданьня і кантролю (не радзей аднаго разу ў месяц) за выкананьнем праўленьнямі адпаведных арганізацый устаноўленых надбавак і цэн; за поўным давядзеньнем да спажыўца аптовых цэн; за недапушчэньнем перакладкі зьніжэньня надбавак з рэглямэнтуемых тавараў на нерэглямэнтуемыя і недапушчэньнем перапродажу тавараў не па свайму назначэньню.

б) Ужываньне мер да скарачэньня гандлёвых выдаткаў шляхам спрашчэньня і рацыяналізацыі існуючай структуры гандлёвых арганізацый, скарачэньня разбухшых штатаў, непатрэбных камандыровак і разьездаў, устанаўленьня карыснай нагрузкі працаўнікоў і г. д.

в) Вывучэньне накладных выдаткаў, якія рабіліся і неабходнасьці іх, шляхаў прахаджэньня тавараў, крыніц закупак тавараў (для скарачэньня шляхаў прахаджэньня і набыцьця тавараў з першакрыніц па найболыш танных цэнах), узмацненьне барацьбы з непатрэбнымі пpастоямі тавараў на станцыях, дамагаючыся аднясеньня выдаткаў за непатрэбныя прастоі за рахунак асоб, па віне якіх адбыўся несваечасовы выкуп тавараў.

г) Супольна з эканамічнымі камісіямі вызначэньне норм нармальнай страты і разьмеру тары і ўпакоўкі, якая сьпісваецца.

д) Узмацненьне нагляду за складаньнем калькуляцый для магчымага іх скарачэньня, усяк змагаючыся з імкненьнямі да накапленьня большых прыбыткаў.

е) Арганізаваць нагляданьне за выкананьнем ва ўсіх магазынах і крамах правіл аб абвяшчэньні цэн на тавары, якія прадаюцца (прэйскуранты) з зазначэньнем, па магчымасьці, у прэйс-курантах і гранічных цэн на гэтыя тавары.

ж) Нагляданьне за тым, каб зьніжэньне цэн не адбілася на якасьці тавараў, правяраючы адпаведнасьць якасьці продажным маркам.

з) Арганізацыю кантрольных закупак для выяўленьня перапродажу, недавагі і якасьці адпускаемых тавараў, а таксама нагляданьне за адпаведнасьцю фактычных продажных цэн, якія вывешаны ў магазынах, прэйс-курантным цэнам.

3. Лічыць неабходным устанаўленьне большай сувязі рэвізійных камісій з эканамічнымі крамнымі камісіямі ў сэнсе праверкі выкананьня праўленьнямі гандлёвых арганізацый мэтазгодных зазначэньняў гэтых камісій, адначасова ўжыўшы меры да большай увязкі працы эканамічных і крамных камісій з гандлёвымі аддзеламі гандлёвых арганізацый.

4. Неабходна наладзіць актыўны ўдзел рэвізійных камісій у працы сходаў упаўнаважаных і сыстэматычны ўдзел іх у пасяджэньнях савету ўпаўнаважаных каапэратываў, пры заслуханьні дакладаў праўленьняў гандлёвых арганізацый, пастаноўку дакладаў рэвізійных камісій аб працы па зьніжэньню цэн, накладных і гандлёвых выдаткаў, а таксама аб неабходных мерапрыемствах для далейшага зьніжэньня іх.

5. Рэвізійныя камісіі павінны дамагчыся ўзмацненьня свайго ўплыву, як органаў грамадзкага кантролю, над працай гандлёвых і каапэрацыйных органаў, асабліва ў галіне зьніжэньня цэн, зьвяртаючыся ў адпаведных выпадках (пры невыкананьні ці процідзейнічаньні) да дапамогі грамадзкай думкі і да органаў Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і перадаючы асобныя выпадкі злосных парушэньняў судовым органам.

6. Лічыць неабходным, каб для сваечасовага паведамленьня рэвізійных камісій аб усіх распараджэньнях Н. К. Гандлю ў галіне зьніжэньня цэн з боку Н. К. Гандлю быў устаноўлены парадак сваечасовага паведамленьня рэвізійным камісіям важнейшых афіцыйных матар'ялаў (шляхам рассылкі ці зьмяшчэньня ў друкаваных выданьнях) у першую чаргу распараджэньняў і пастаноў аб устаноўленьні аптовых і розьнічных цэн і разьмераў гандлёвых і накладных выдаткаў.

7. Зьвярнуць увагу арг. аддзелаў каапэрацыйных арганізацый на большае выкарыстаньне інструктароў у адносінах дачы рэвізійным камісіям нізавых каапэрацыйных органаў практычных парадаў і паказаньняў у працы па зьніжэньню цэн, абавязаўшы іх пры выездах на месцы праводзіць нарады рэвізійных камісій.

8. Рэвізійным камісіям неабходна таксама шырока выкарыстоўваць друк для інфармацыі як аб сваёй агульнай працы, так і асабліва ў галіне зьніжэньня цэн, а таксама і пастаноўку дакладаў рэвізійных камісій на сходах пайшчыкаў.

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскае
Інспэкцыі БССР **Вілянстовіч.**

16 красавіка 1927 г.

---

Узгодзена з Н. К. Юстыцыі БССР:
адносіна за 8 красавіка 1927 г.
№ 1703.

## 3. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ПРЫЦЯГНЕНЬНІ ОРГАНАМІ МІЛІЦЫІ ГРАМАДЗЯН ДА ДАПАМОГІ ПРЫ ЗАТРЫМАНЬНІ П'ЯНЫХ І ХУЛІГАНАЎ, ЯКІЯ СУПРАЦІЎЛЯЮЦЦА ПРЫ ЗАТРЫМАНЬНІ.

*Выдаецца на падставе п. „в" § 7 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 29-га сьнежня 1926 г. „аб мерах барацьбы з хуліганствам" (Зб. Зак. БССР 1927 г., № 3, арт. 15).*

1. Каб лепш забясьпечыць органам міліцыі магчымасьць поўнага правядзеньня ў жыцьцё ўскладзеных на іх мер па барацьбе з п'янствам і хуліганствам, органам міліцыі даецца права прыцягваць паасобных грамадзян да дапамогі пры затрыманьні п'яных і хуліганаў у тых выпадках, калі работнікі міліцыі ня будуць мець магчымасьці затрымаць іх сваімі сіламі.

2. На падставе гэтага органы міліцыі маюць права: а) патрабаваць ад грамадзян дапамогі для спыненьня беспарадку, які ўчыняюць п'яныя і хуліганы і для дастаўкі затрыманых асоб у аддзяленьні або ўправы міліцыі, б) даручаць грамадзянам заклік на дапамогу бліжэйшых паставых міліцыянэраў, дворнікаў, начных вартаўнікоў, а ў вясковых мясцовасьцях сельскіх выканаўцаў і перадаваць праз паказаных асоб свае патрэбныя распараджэньні і паведамленьні.

3. Да дапамогі органам міліцыі могуць быць прыцягнуты ўсе поўналетнія грамадзяне, як мужчыны, так і жанчыны.

4. Органы міліцыі павінны зьвяртацца за дапамогай перш-наперш да паасобных вайскоўцаў, якія знаходзяцца на месцы здарэньня, альбо праходзяць міма; асоб жаночага роду, інвалідаў і асоб, якія ня маюць выстарчальнае фізычнае сілы, органы міліцыі павінны скарыстоўваць выключна для заклікаңьня на дапамогу бліжэйшых паставых міліцыянэраў, дворнікаў, начных вартаўнікоў і сельскіх выканаўцаў, а таксама для перадачы гэтымі асобамі патрэбных тэрміновых распараджэньняў і паведамленьняў.

5. Асобы, якія ня выканаюць патрабаваньня міліцыі аб дапамозе, падлягаюць адказнасьці паводле арт. 219 Крым. Код.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Начальнік Управы Міліцыі НКУС БССР **Я. Кроль**.

18 красавіка 1927 г.
№ 79.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ЗЬМЕНАХ У ПАРАДКУ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ РАБОТ ПА ЗЕМЛЯНАДЗЯЛЕНЬНЮ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам, Зямельным Камісіям і Земляўпарадчыкам.*

Народны Камісарыят Земляробства БССР для ўзмацненьня тэмпу землянадзяленьня безьзямельнага і малазямельнага сялянства, у адмену п. п. 22 і 23 абежніку свайго за 22/VII—1926 г. № 18, прапануе наступны парадак работ па землянадзяленьні:

1. Разьмеркаваньне плошчаў запаснага фонду, якія даюцца ў прырэзку, а таксама і такіх плошчаў, на якіх утвараюцца адзіночныя гаспадаркі—хутары або групы хутароў у ліку ня больш 5-ці, належыць праводзіць сіламі сельскіх саветаў, пад кіраўніцтвам Раённых Выканаўчых Камітэтаў.

Такія справы могуць выконвацца без папярэдняй падрыхтоўкі. Пасьля выяўленьня плошчы запаснага фонду і кантынгэнтаў надзяляемых зямлёю, Сельскім Саветам складаецца спрошчаны земляўпарадчы праэкт, які пасьля падачы зацікаўленым старанам перадаецца для разгляду ў адчыненым паседжаньні Раённай Зямельнай Камісіі, як земляўпарадчая справа (гл. Бюлетэнь СНК БССР № 4—1926 г., стар. 77 і № 2—1927 г., стр. 15).

2. Адабраньне лішкаў больш нормы ў цераспалосных гаспадарках, праводзіць толькі пры ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні.

3. Пры складаньні выканаўчых плянаў работ па земляўпарадкаваньні Акруговыя Зямельныя Аддзелы павінны аддаваць перавагу такім справам, па якіх у агульную дачу земляўпарадкаваньня можа быць уключана найбольшая плошча неразьмеркаванага яшчэ запаснага фонду.

4. Адабраньне лішкаў зямлі ад хутарскіх гаспадарак і разьмеркаваньне значных плошчаў запаснага фонду, на якіх утвараюцца с.-г. калектывы, пасёлкі альбо групы хутароў больш 5-ці, праводзіць і надалей сіламі земляўпарадчыкаў з ужываньнем усіх тэхнічных і працэсуальных правіл земляўпарадкаваньня.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў**.

За Начальніка Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных
Маемасьцяй пры НКЗ БССР **У. Ліодт**.

Старшыня Асобай Калегіі Вышэйшага
Кантролю пры НКЗ БССР **Я. Лабаноўскі**.

9 сакавіка 1927 г.
№ 16.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ СКАРЫСТАНЬНІ РАЙЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫКАЎ У ЯКАСЬЦІ НАЧ. ПАРТЫЙ У ЛЕТНІ ПЭРЫЯД.

*Акруговым Зямельным Аддзелам. Копіі: Акрвыканкомам.*

З прычыны недахвату выканаўчага земляўпарадчага пэрсаналу выстарчальнай колькасьці дасьведчаных земляўпарадчыкаў для кіраваньня работамі, а таксама ў зьвязку з фінансавымі цяжкасьцямі, якія выкліканы павышэньнем заработнае платы апэрацыйнаму пэрсаналу, Народны Камісарыят Земляробства прымушан прыцягнуць у наступны летні пэрыяд раённых земляўпарадчыкаў для беспасрэднага выкананьня спраў у натуры, усклаўшы на іх нагрузку ў сярэднім у разьмеры 50% нагрузкі, устаноўленай на земляўпарадчую адзінку.

Для найбольш рацыянальнага скарыстаньня вопыту і дасьведчаньня раённых земляўпарадчыкаў пры выкананьні гэтай нагрузкі, а таксама для найбольш пасьпешнага правядзеньня наогул земляўпарадчай кампаніі, Народны Камісарыят Земляробства прапануе з пачатку палявога пэрыяду назначыць раённых земляўпарадчыкаў начальнікамі партый у сваім раёне па тых справах унутрывясковага земляўпарадкаваньня, дзе выканаўчы пэрсанал будзе найбольш патрабаваць іх штодзённага кіраваньня і ўдзелу ў працы. Разам з гэтым, зьяўляючыся цалкам адказнымі за пасьпешнае выкананьне ўсіх работ, як па земляўпарадкаваньню, так і па землянадзяленьню ў раёне, Раённыя земляўпарадчыкі павінны ўзмацніць кантроль і кіраваньне работамі і па іншых справах.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач, раённыя земляўпарадчыкі павінны быць цалкам зволынены ад выкананьня даручэньняў Раённых Выканаўчых Камітэтаў, не ўваходзячых ў плян земляўпарадчых работ, а таксама ад усякіх даручэньняў канцэлярскага характару, выкананьне якіх не патрабуе дарагое тэхнічнае сілы. Раённыя Выканаўчыя Камітэты самі вельмі зацікаўлены ў правядзеньні магчыма большай колькасьці земляўпарадчых работ па свайму раёну, ні ў

якім разе не павінны затрымліваць раённага земляўпарадчыка пры Раённым Выканаўчым Камітэцэ, маючы на ўвазе, што яго месца на апэрацыйнай працы. Для вырашэньня неадкладных пытаньняў, якія патрабуюць удзелу раённага земляўпарадчыка, а таксама для дакладу Раённага Выканаўчага Камітэту аб ходзе работ па раёну, павінны быць устаноўлены вызначаныя дні знаходжэньня раённага земляўпарадчыка ў Раённым Выканаўчым Камітэце, але ня больш 2-х дзён у месяц.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй пры НКЗ БССР **А. Шычко.**

15 сакавіка 1927 г.
№ 17.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАДЛІКУ ІНЖЭНЭРАЎ, ТЭХНІКАЎ І СПЭЦЫЯЛІСТЫХ ПА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ.

На падставе Інструкцыі Н. К. Працы СССР за 3/XII—1926 году № 259/147 „Аб парадку ўжываньня пастановы ЦВК і СНК СССР за 9/VII—1926 г.“ аб падліку інжэнэраў, тэхнікаў і спэцыялістых па сельскай гаспадарцы („Известия Н. К. Труда СССР“ 1926 г. № 49—50) і абежніку Аддзелу Рынку Працы Н. К. Працы СССР за 13/XII—1926 г. № 265/149/809 „Аб мерапрыемствах да правядзеньня падліку тэхнічных сіл Саюзу ССР на 1/I—27 г.“, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. З 1-га студзеня 1927 г. на абшары БССР ўводзіцца падлік інжэнэраў, тэхнікаў усіх спэцыяльнасьцяй і спэцыялістых па сельскай гаспадарцы.

2. Усе дзяржаўныя, грамадзкія і прыватныя ўстановы, прадпрыемствы і гаспадаркі, у якіх працуюць па найму паказаныя вышэй спэцыялістыя, павінны весьці падлік гэтых працаўнікоў па рэгістрацыйных картках падліку тэхнічных сіл СССР (форму картак можна атрымаць у магазынах „Пытаньні Працы“ і ў Камарах Інспэкцыі Працы).

3. Карткі запісваюцца самімі спэцыялістымі і правяраюцца па магчымасьці тым прадпрыемствам, установай альбо гаспадаркаю, у якіх працуе спэцыялісты. Асаблівая ўвага звaрочваецца на пункты карткі 8, 9 і 13, якія датычацца адукацыі, званьня і стажу. Зьвесткі па гэтых пунктах па магчымасьці павінны быць пацьверджаны дакумэнтамі.

4. Запоўненыя рэгістрацыйныя карткі на інжэнэраў, тэхнікаў і спэцыялістых па сельскай гаспадарцы адсылаюцца ўстановамі і прадпрыемствамі штогод мясцовым органам Н. К. Працы БССР (Аддзелам і Камарам Інспэкцыі Працы) да 15-га студзеня.

Спэцыялістыя, якія працуюць не па найму, і безработныя спэцыялістыя, якія не знаходзяцца на вучоце Бірж Працы на 1/I—27 г., таксама павінны пасылаць запоўненыя карткі ў органы Н. К. Працы БССР па пошце (заказным лістом), ці здаваць асабіста.

*Увага.* Рэгістрацыйныя карткі безработных спэцыялістых, якія зарэгістраваны на Біржах Працы і карэспандэнцкіх пунк-

тах на 1/I—1927 г. павінны быць атрыманы Біржаю пры чарговай яўцы безработнага на рэгістрацыю альбо праз спэцыяльны яго выклік.

Зьвесткі, унесеныя ў карткі безработных спэцыялістых, правяраюцца тым органам Н. К. Працы, у якім спэцыялісты зарэгістраван у якасьці безработнага.

На картках безработных, якія знаходзяцца на падліку ў органах Н. К. Працы зьверху карткі робіцца адзнака: „На падліку Біржы Працы“.

5. Кіраўнікі ўстаноў, прадпрыемстваў і гаспадарак, парушыўшыя правілы падліку спэцыялістых, а таксама і паасобныя спэцыялістыя, якія ўхіліліся ад падліку альбо далі аб сабе няправільныя зьвесткі прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

ДАДАТАК: Форма карткі.

Народны Камісар Працы БССР **С. Ерафееў**.

Заг. Аддзелу Рынку Працы НКП БССР **Мышалаў**.

Загадчык Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў**.

29 сьнежня 1926 г.
№ 25.

---

ДАДАТАК.

Форма Д.

Рэгістрацыйная картка па падліку тэхнічных сіл Саюзу ССР.

ЗАПАЎНЯЦЬ ЯСНА АТРАМЭНТАМ.

Акруга (альбо адпаведная ей адміністрацыйна-абшарная адзінка) *).

Рэгістрацыйны № ........................ **)

Часьць ........................ **)

Спэцыяльнасьць ........................ **)

Да якога ведамства адносіцца прадпрыемства, альбо ўстанова, у якім працуе апытваемы (ВСНГ, НКШС, НКУС і г. д.) ........................

........................

У якое аб‘яднаньне ўваходзіць прадпрыемства (назва трэсту, сындыкату і г. д.) ........................

1. Прозьвішча ............ імя ............ імя па бацьку ............

2. Адрас ........................ (дакладна паказаць месца жыцьця, горад, сяло і г. д., вуліцу, № дому, № кватэры).

---

*) Для працуючых за граніцаю пакавваецца назва адпаведнай замежнай дзяржавы.

**) Гэтыя пункты запаўняюцца пры статыстычнай распрацоўцы ў Н. К. Працы.

3. Год нараджэньня ______ Узрост ______

4. Нацыянальнасьць ______

5. Грамадзянства (СССР, альбо грамадзянства замежнай дзяржавы, якой) ______

6. Партыйнасьць ______

7. Ці знаходзіцца ў прафэсіянальным саюзе і ў якім ______

8. Дакладная назва і адрас скончанай навучальнай установы ______ год сканчэньня ______

(у гэтым пункце належыць паказаць спэцыяльную навучальную установу, у якой атрымана апошняя годнасьць інжэнэра, тэхніка, агранома і г. д.). Поўная назва і адрас апошняй нясканчанай навучальнай установы ______

______ колькі курсаў скончыў і калі выступіў ______

9. Годнасьць па адукацыі ______
(Калі скончыў некалькі навучальных устаноў—пералічыць атрыманыя годнасьці ў парадку іх набыцьця).

10. Спэцыяльнасьць (паказаць таксама вузкую спэцыяльнасьць):

а) галоўная ______

б) другарадная (дадатковая) ______

11. Якімі мовамі ўладае | чытае ______
| гаворыць ______

12. Якія мае навуковыя працы, дасьледваньні і г. д. ______

13. Практычны стаж і работа па сучасны момант у СССР і заграніцаю. (Паказаць таксама і работы па найму не па сваёй спэцыяльнасьці).

| №№ па парадку | Прадпрыемства, установа альбо гаспадарка | | | | Цэх альбо аддзяленьне | Пасада альбо характар выконваемае работы | Час работы | | Працяжнасьць работы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Назва | Месца знаходжэньня (горад, сяло і г. д.). | Катэгорыя (Дзяржаўн., каапэр., канцэсійн. і г. д.). | Характар работы (вытворчасьці). | | | Ад (месяц, год) | Да (месяц, год) | Гадоў | Месяцаў |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | | | | | |

А. Да паступленьня ў спэцыяльную навучальную ўстанову, у якой атрымаў і закончыў асноўную тэарэтычную падрыхтоўку:

.............................................................................................

.............................................................................................

Б. З моманту сканчэньня вышэй паказанай навучальнай установы:

В. Служба да моманту запаўненьня анкеты:

1. .............................................................................................
(Асноўная служба)

2. .............................................................................................
(па сумяшчальнасьці)

.............................................................................................

Працуючыя не па найму ў разьдзеле „В" паказваюць работы не па найму і характар занияткаў у цяперашні час.

Безработныя ў разьдзеле „В" паказваюць—„безработны".

*Увага*. Калі пры запаўненьні табліцы не хапае месца—напісаць такую самую дадатковую картку, запоўніць і прышыць яе да рэгістрацыйнай карткі.

14. Адносіна да абавязковай вайсковай службы:

а) для шарэнговага і малодшага начальніцкага складу:

Які вайсковы дакумэнт маецца на руках:

Кім ён выдадзен .............................................. дзе знаходзіцца на падліку і пад якім нумарам ................ падрабязнае найменьне службовае кваліфікацыі, вайсковай спэцыяльнасьці, група запасу і роду войска .............................................................................................

б) для сярэдняга, старэйшага начальніцкага складу:

Дзе знаходзіцца на вайсковым падліку ..............................................

.............................................................................................
(найменьне ваенкамату, альбо тэрытарыяльнага кіраўніцтва).

.............................................. складу .............................................. групы
[сярэдн., старш., выш ].

(Камандай, Адміністрацыйна-палітычн., мэдыцынск., вэтэрынарн.)

.............................................. разрад падліку, род і від войск

.............................................. (доўгатэрмін. водпуск, альбо чарг. зап.).

катэгорыя .............................................. пасада ..............................................

Дата запаўненьня.

„ " дня .............................................. мес. 192 г.

Подпіс асобы, запоўнішай картку.

Л І Н І Я А Д Р Э З У.

Талён да рэгістрацыйнай карткі па падліку тэхнічных сіл Саюзу ССР.

Прозьвішча, імя, імя па бацьку і ўзрост ..............................................

Губэрня (альбо адведная ёй адміністрацыйна-абшарная адзінка) ..................

Прадпрыемства, установа, альбо гаспадарка ..................

Рэгістрацыйная картка па падліку тэх. сіл запоўнена

„ “ .............................. 192 г.

Подпіс ..................

За № ..................

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

### АБ АБАВЯЗКОВЫМ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ АБ ПРАФЭСІЙНЫХ АТРУЧЭНЬНЯХ І ХВАРОБАХ.

Для правільнага падліку прафэсійных атручэньняў і важнейшых прафэсійных хвароб у зьмену свае пастановы за 17 сьнежня 1924 г. (З. З. БССР 1925 г. № 16, арт. 127) Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць:

1. Устанавіць абавязковую рэгістрацыю прафэсійных атручэньняў, якія выклікаюцца волавам, яго злучэньнямі і сплавамі, жывым срэбрам і яго злучэньнямі, мышаком і яго злучэньнямі, фосфарам і яго злучэньнямі, хлёрам і яго ператварэньнямі, салянаю і фторыставадароднаю кіслатою, азотнаю і азоцістаю кіслатою, окісамі азоту, серкавым і сярністым ангідрытам, серкавадародам, окісам вугляроду (сьвяцільны газ доменны, гэнэраторны, вадзяны газ і інш.) бэнзінам, бэнзолам і яго гамалогамі, нітрозлучэньнямі добрапахучых вуглявадародаў, анілінам і яго ператварэньнямі, фэнолам з яго ператварэньнямі, а таксама і іншымі атрутнымі матэрыямі.

2. Побач з прафэсійнымі атручэньнямі, павінны абавязкова рэгістравацца:

а) Наступныя прафэсійныя інфэкцыйныя хваробы: сібірская язва, сап, пранцы мэдыцынскіх працаўнікоў (пранцы прафэсійныя), халера і іншыя хваробы асоб працуючых па эпідэміі;

б) катаракта пры работах, зьвязаных з высокай тэмпэратурай і яскравым сьветам;

в) запаленьне сеткавіцы;

г) рак мачавога пузыра пры работах з анілінавымі злучэньнямі;

д) Кесанава хвароба;

е) глухата;

ж) прафэсійны спазм і прафэсійныя сударгі канцовасьцяй;

з) Рэнтгэнаўскія радыё-паражэньні;

і) хранічныя запаленьні сінавальных сумак і падскурнай абалоніны калена, локця, лучазапястнае суставы і сухажыльных похваў;

к) прафэсійныя захварэньні скуры, экзэма, пакрыцьцё балячкамі, апалы і інш.

3. Усе лекавыя ўстановы і дактары, якія знаходзяцца на дзяржаўнай, грамадзкай і прыватнай службе, а таксама вольна практыкуючыя дактары павінны ў кожным выпадку, як вострых, так і

хранічных прафэсійных атручэньняў і пералічаных у арт. 2 прафэсійных хвароб, прысылаць паведамленьне па ўстаноўленай форме: а) у мясцовыя камары і аддзелы працы—санітарнаму інспэктару і б) у мясцовы орган аховы здароўя па месцу працы захварэўшага.

Паведамленьні доктарам ці лекавай установай пасылаюцца не пазьней аднаго тыдня пасьля таго, як зьвернецца да іх хворы, у выпадку-ж масавага атручэньня—паведамленьні пасылаюцца зараз-жа.

4. Незалежна ад лекавых устаноў і дактароў адміністрацыя прадпрыемства ці ўстановы павінна прысылаць санітарнаму інспэктару ў мясцовыя камары ці Аддзелы Працы паведамленьні па ўстаноўленай форме аб усіх вядомых ёй выпадках прафэсійных атручэньняў і прафэсійных хвароб, пералічаных у арт. 2 гэтага абежніку.

Паведамленьне пасылаецца адміністрацыяй прадпрыемства альбо ўстановы не пазьней 48 гадзін пасьля кожнага выпадку атручэньня альбо зробленай аб ім заявы. У выпадку масавых атручэньняў паведамляецца зараз-жа (па тэлефону або тэлеграфу) мясцоваму інспэктару працы.

Падрабязны парадак паведамленьня і правілы складаньня адпаведных фармуляраў устанаўляюцца спэцыяльнай інструкцыяй Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

6. Асобы, вінаватыя ў невыкананьні гэтай пастановы, будуць прыцягвацца да судовай адказнасьці па адпаведных артыкулах Крымінальнага Кодэксу БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Народны Камісар Аховы
Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

20 сьнежня 1926 г.
№ 27.

---

ДАДАТАК ДА ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ І Н. К. АХОВЫ ЗДАРОЎЯ БССР ЗА 20/XII—26 г. АБ РЭГІСТРАЦЫІ ПРАФ. АТРУЧЭНЬНЯЎ і ПРАФ. ЗАХВАРЭНЬНЯЎ.

## Паведамленьне аб прафэсійным захварэньні або атручэньні.

1. Назва прадпрыемства, установы, гаспадаркі ______________________
________________________________________________

2. Адрас ________________________________________

3. Вытворчасьць __________________________________

4. Прозьвішча захварэўшага ______________ імя ______________
імя па бацьку ______________________________

5. Узрост ______________ пол: мужчына, жанчына (падкрэсьліць).

6. Хатні адрас захварэўшага. Для гораду: горад, вуліца ______ № дому ______ № кватэры ______ у сельскіх мясцовасьцях: акруга ______ раён ______ вёска ______ , фабрычны пасёлак ______ (казармы).

7. Дэтальная прафэсія (пасада) захварэўшага ______ Месца працы: аддзяленьне, цэх, майстэрня ______

8. Колькі часу працуе па данай прафэсіі, або пасадзе ______ на данным прадпрыемстве ______ , на данай рабоце ______

9. Калі вынікла атручэньне, або вострае захварэньне. 192 ___ г. ______ м-ца ______ дня ______ дня тыдня ______ гадзіны ______ раніцы, дня, увечары, ночы (альбо па 24-х гадзіннаму ліку) ______

10. Кароткае апісаньне абставін, пры якіх здарылася атручэньне, або вострае захварэньне ______

11. У чым вызначылася атручэньне, або захварэньне ______

12. Чым выклікана атручэньне або захварэньне ______

13. Дыагназ нявысьветлены ______ Устаноўлены ______

*Увага.* Запісваецца толькі доктарам, або лячэбнаю ўстановаю.

14. Вынікі атручэньня, або захварэньня: астаўся на рабоце, адпраўлен дамоў, у лекавую ўстанову і якую ______

Памёр ______

Паведамленьне паслана ______ месяца ______ дня ______ 192 ___ г.

ПОДПІСЫ:

Назва амбуляторыі або бальніцы

Заключэньне санітарнага інспэктара, або доктара.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ ЧАРГОВЫХ І ДАДАТКОВЫХ ВОДПУСКАХ ДЛЯ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ.

Народны Камісарыят Працы БССР, у разьвіцьцё арт. арт. 114—120 Кодэксу Законаў аб Працы пастанаўляе ўстанавіць наступныя правілы аб водпусках:

1. Бесьперарыўнасьць работы, якая дае права на чарговы водпуск рабочага або служачага, не парушаецца ў тых выпадках, калі працаўнік фактычна ня выконваў работы ў прадпрыемстве ці ўстанове, але за ім па закону захоўвалася яго месца работы (водпуск па хворасьці, арышт, выкананьне грамадзкіх абавязкаў і інш.).

2. Зьлічэньне тэрміну, які дае права на атрыманьне водпуску пачынаецца з 1 студзеня кожнага каляндарнага году ва ўсіх выпадках, калі у папярэднім каляндарным годзе работнікам водпуск быў скарыстаны (даваўся натураю, атрымана кампэнсацыя за водпуск), або калі адміністрацыя абавязалася адпаведна павялічыць водпуск у наступным годзе.

3. У канцы каляндарнага году (сьнежань) адміністрацыя павінна зрабіць разьлікі за водпуск, пры гэтым, калі рабочы або служачы да гэтага моманту ня мае права на атрыманьне цэлага чарговага водпуску, г. з. прапрацаваў менш $5^1/_2$ месяцаў, то ён атрымоўвае водпуск прапарцыянальна прапрацаванаму часу, або кампэнсацыю за яго. Гэта, аднак, не пазбаўляе магчымасьці належны водпуск, па жаданьні рабочага або служачага, скарыстаць разам з водпускам наступнага году, што павінна быць адзначана ў разьлічковай кніжцы (арт. 14 гэтае пастановы).

4. Рабочым і служачым, працаваўшым на шкодных і няшкодных работах, павінен давацца дадатковы водпуск у разьмеры $^1/_{24}$ прапрацаванага на шкодных работах часу.

5. Водпускі падлеткам павінны давацца адміністрацыяю ў летні час (з 1-га мая да 1-га кастрычніка), што, аднак, не пазбаўляе падлеткаў права скарыстаць водпуск і ў іншы час году.

6. Падлеткі, якім да пачатку каляндарнага году ня скончылася 18 год, карыстаюцца ў гэтым каляндарным годзе месячным водпускам.

7. Водпускі даюцца толькі адзін раз на працягу каляндарнага году. Гэтае правіла ўжываецца і пры злучэньні нескарыстанага водпуску мінулага году. Дадатковыя водпускі па шкоднасьці павінны давацца аднachасова з чарговымі водпускамі.

8. Кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск, а таксама ўтрыманьне за час водпуску вылічваюцца паводле працяжнасьці водпуску з разьліку сярэдняга заработку працаўніка за папярэднія 3 месяцы да моманту адходу ў водпуск або атрыманьня кампэнсацыі. Асобам, якія атрымліваюць заработную плату памесячна, кампэнсацыя і ўтрыманьне за час водпуску выдаюцца з разьліку фактычнага месячнага заработку. За два тыдні лічацца 12 рабочых дзен і 2 адпачынку дні.

9. Пры звальненьні рабочым і служачым павінна быць выплачана кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск. У тых выпадках, калі ў звальняемых няма яшчэ права на водпуск (чарговы або дадатковы) у бягучым каляндарным годзе ім выдаецца кампэнсацыя прапарцыянальна прапрацаванаму часу, г. з. пры 2-х тыднёвым водпуску—з разьліку $^1/_{24}$ сярэдняга месячнага заработку за кожны пра-

працаваны месяц, а пры 4-х тыднёвым—з разьліку $^1/_{12}$ таго-ж заработку. Пры выплаце кампэнсацыі за нескарыстары водпуск прапрацаваны час менш 2-х тыдняў у разьлік не бярэцца, а работа больш 2-х тыдняў лічыцца як цэлы месяц.

10. У тых выпадках, калі звальняемы рабочы або служачы ў папярэднім годзе прапрацаваў менш $5^1/_2$ месяцаў і водпуску або кампэнсацыі за яго не атрымаў (арт. арт. 3 і 9), але да моманту звальненьня ён прапрацаваў усяго разам ня менш $5^1/_2$ месяцаў, ён мае права на кампэнсацыю за цэлы чарговы водпуск.

11. Кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск пры сумяшчальнасьці выдаецца як па асноўнай, так і па сумяшчаемай пасадзе.

12. Звальненьне рабочых і служачых, якія знаходзяцца ў чарговых і дадатковых водпусках, не дазваляецца, за выняткам выпадкаў поўнай або частковай ліквідацыі ўстановы, прадпрыемства або гаспадаркі і прыпынку работы ў іх на тэрмін больш аднаго месяца.

*Увага.* Забараняецца папярэджваць (арт. 88 Код. Закон. аб Працы) аб наступным звальненьні пры адыходзе рабочага або служачага ў водпуск, а таксама і ў час водпуску.

13. Звальняемыя ў водпуск захоўваюць за час як чарговага, так і дадатковага водпуску ўтрыманьне, якое ім выдаецца перад адыходам у водпуск. У выпадку павялічэньня тарыфу ў час водпуску або пры звароце з яго, рабочым і служачым выдаецца розьніца паміж атрыманым авансам і тым заработкам, які ўстаноўлен па новай стаўцы.

14. Усе выпадкі чарговага і дадатковага водпускаў, час і тэрмін іх скарыстаньня, атрыманьне кампэнсацыі, яе разьмер, час выдачы кампэнсацыі і павялічэньне водпуску ў наступным годзе адзначаюцца ў разьліковай кніжцы.

15. Гэтая пастанова ня можа быць падставаю для парушэньня ўмоў дачы працаўніком водпускаў, якія ўстанаўляюцца калектыўнымі дагаворамі і тарыфнымі ўгодамі.

16. З выданьнем гэтае пастановы касуецца пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 18 мая 1925 году „аб чарговых і дадатковых водпусках“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Нам. Загадчыка Аддзелу Аховы Працы **С. Гольдберг.**

Узгоднена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі: Нам. Загадчыка Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу ЦСПСБ **З. Каган.**

31 сакавіка 1927 г.
№ 49.

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ РАСТЛУМАЧЭНЬНІ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ СССР ЗА 4 ВЕРАСЬНЯ 1926 г. № 194/523 „АБ АПЛАЦЕ ДЗЁН АДПАЧЫНКУ, СЬВЯТОЧНЫХ ДЗЁН І ЛЬГОТНЫХ ГАДЗІН НАПЯРЭДАДНІ ШТОТЫДНЁВЫХ ДЗЁН АДПАЧЫНКУ І СЬВЯТОЧНЫХ ДЗЁН".

У дадатак да пастановы Н. К. Працы СССР за 4-га верасьня 1926 г. „Аб аплаце дзён адпачынку, сьвяточных дзён і льготных гадзін" напярэдадні штотыднёвых дзён адпачынку і сьвяточных дзён („Изв. Н. К. Труда СССР" 1926 год № 34)—Н. К. Працы БССР растлумачвае:

1. Калі замест штотыднёвых дзён адпачынку ці сьвяточных дзён—даецца іншы выхадны дзень з захаваньнем 42-х гадзіннага бесьперапыннага адпачынку, дык праца ў сьвяточныя дні ці ў штотыднёвыя дні адпачынку не аплачваецца.

2. Калі-ж замест дзён адпачынку і сьвяточных дзён не даюцца іншыя выхадныя дні, дык праца ў гэтыя дні аплачваецца ў падвойным разьмеры, гэта значыць: працаўнікі, якія аплачваюцца па-гадзінна атрымоўваюць за працу плату ў падвойным разьмеры па сваёй тарыфнай стаўцы, а працуючыя зьдзельна—атрымоўваюць даплату да свайго зьдзельнага заработку ў разьмеры ня ніжэй па-гадзіннай тарыфнай стаўкі за кожную гадзіну працы ў сьвяточныя дні ці ў дні штотыднёвага адпачынку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Тарыфна-Канфліктным Аддзелам НКП БССР **С. Гольдберг.**

Заг. Агульнага Аддзелу НКП БССР **І. Акулаў.**

Узгоднен з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі:

Нам. Загадчыка Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу ЦСПСБ **З. Каган.**

31 сакавіка 1927 г.
№ 52.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УМОВАХ ПРАЦЫ НА БУДАЎНІЧЫХ РАБОТАХ.

У адмену пастановы сваей за 2 чэрвеня 1925 г. „аб умовах працы на будаўнічых работах" (Бюлетэнь СНК БССР за 1925 г. № 1) у мэтах рэгуляваньня ўмоў працы на будаўнічых работах, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Наём рабочай сілы на будаўнічыя работы робіцца праз Біржы Працы ў парадку дабравольнага фактарства, пры гэтым паміж наймальнікам і Біржаю Працы абавязкова павінны рабіцца асобыя ўгоды на дастаўку рабочай сілы. Патрабаваньні на кваліфікаваную рабочую сілу звыш 10 чалавек павінны пасылацца наймальнікам на Біржу Працы ня менш як за два тыдні і ў выключных выпадках ня менш як за тры дні да пачатку работ, з паказаньнем часу яўкі на работу.

2. Набіраньне рабочай сілы па-за межамі даннае акругі дазваляецца ня іначай, як з дазволу аддзелаў і Камар Інспэкцыі Працы і па ўзгадненьні з мясцовымі органамі Прафэсіянальнага Саюзу будаўнічых рабочых.

3. Для меркаванай да прывозу з іншых мясцовасьцяй рабочай сілы наймальнік павінен наперад падрыхтаваць памяшканьне годнае для жыльля.

4. Калі работа праводзіцца за мяжою гораду на адлегласьці звыш 2-х вёрст ад яго, наймальнік павінен даць рабочым перавозныя сродкі да месца работы і назад.

5. Калі рабочым, якія пасланы Біржаю Працы па патрабаваньні наймальніка ня будзе дадзена работа па віне наймальніка, то за страчаны час рабочыя аплачваюцца па тарыфнай стаўцы, паказанай у калектыўным ці працоўным дагаворы.

6. Рабочы час і штотыднёвыя, а таксама і асобныя дні адпачынку, павінны прадугледжаны правіламі ўнутранага распарадку, якія вывешваюцца на відным месцы работ.

*Увага.* У гарачыя сонечныя дні ў адчыненых мясцох работы адміністрацыя па згодзе з Прафсаюзным органам мае права ўстанавіць іншыя гадзіны работы ў працягу дня пры ўмове, каб рабочы час за ўвесь дзень не перавышаў 8 гадзін.

7. У выпадку спыненьня работы ці немагчымасьці пачаць яе па прычынах, зьвязаных з кепскім надвор‘ем (дождж, град і інш.) страчаны рабочымі час аплачваецца па тарыфнай стаўцы, паказанай у калектыўным ці працоўным дагаворы.

*Увага.* У выпадках перапынкаў у рабоце з паказаных у арт. 7 прычын, адміністрацыя мае права пераводзіць рабочых на работы ў закрытых памяшканьнях.

8. Спэцыяльная вопратка рабочым выдаецца натураю ў разьмерах ня ніжэй норм, устаноўленых Н. К. Працы СССР.

9. Устаноўленая ў калектыўным ці працоўным дагаворы ўзнагарода за зношваньне іструмэнту і іншыя віды кампэнсацый выдаюцца адначасова з заработнаю платаю.

10. На месцы, дзе праводзяцца будаўнічыя работы, павінны заўсёды быць зачыненыя бакі з халоднаю пераваранаю вадою. Пры баках павінны быць кружкі для піцьця.

11. На кожнай пабудове наймальнік павінен паставіць для карыстаньня рабочымі рукамыйнікі з вадою і здавальняючаю колькасьцю мыла і рушнікоў, а таксама аптэчку з неабходнымі лякарствамі ў здавальняючай колькасьці для ўтварэньня першае мэдыцынскае дапамогі.

Адміністрацыя павінна даць рабочым асобныя накрытыя памяшканьні для яды, і для хаваньня ад благога надвор‘я, дзе павінны быць сталы і лаўкі. Наймальнік павінен даць рабочым асобнае месца для хаваньня вопраткі (шафу, вешалку).

12. На месцы, дзе робяцца будаўнічыя работы, павінны быць пабудаваны прыбіральні па разьліку ня менш аднэй дзіркі на кожныя 20 чалавек. Прыбіральні павінны захоўвацца ў чыстаце.

13. Паступіўшых новых рабочых адміністрацыя павінна знаёміць з існуючым калектыўным дагаворам, правіламі ўнутранага парадку і небясьпечнымі момантамі работ.

14. Адміністрацыя будаўнічых работ павінна кіравацца пастановаю Н. К. Працы СССР за 4/V-1926 г. № 103/340 „Аб спосабах забясьпекі пры будаўнічых работах“ („Известия НКТ СССР“ за 1926 г. № 18) і вывесіць яе на відным месцы.

15. На кожнай пабудове адміністрацыя павінна назначыць асобу (інжэнэра, тэхніка), якая павінна ведаць пытаньнямі тэхнікі бясьпечнасьці. Адказнасьць за работу па захаваньні правіл па тэхніцы бясьпечнасьці і норм аховы працы на будаўнічых работах ускладаецца на адміністрацыю прадпрыемства і на назначаную ею адказную за тэхніку бясьпечнасьці асобу.

16. Будаўнічыя органы ці асобы, якія праводзяць будаўнічыя работы, павінны паведамляць мясцовым камарам і Аддзелам Працы дакладныя адрасы будаўнічых работ, час пачатку іх і прозьвішча назначанай і адказнай за тэхніку бясьпечнасьці асобы.

17. Адміністрацыя перад пачаткам будаўнічых работ павінна агледзець пры ўдзеле адпаведных спэцыялістых на пабудовах стан рыштаваньня, падмосткаў, замацаваньняў, пад'ёмнікаў і інш. і праверыць выкананьне як гэтае пастановы, так і пастановы Н. К. Працы СССР за 4/V—1926 г. „Аб спосабах забясьпекі пры будаўнічых работах“. Да агляду прыцягваюцца таксама і прадстаўнікі Прафсаюзнага органу.

18. Ускладаць адказнасьць за правільнасьць пабудаваньня рыштаваньняў, замацаваньняў і падмосткаў, у сэнсе тэхнікі бясьпечнасьці, на рабочых ні ў якім выпадку не дазваляецца.

19. Аб усіх няшчасных выпадках, якія здарыліся на работах, адміністрацыя (работнік адказны за тэхніку бясьпечнасьці) зараз-жа даводзіць да ведама мясцовай інспэкцыі працы, паведамляючы аб гэтым па ўстаноўленай форме. Няшчасныя выпадкі, не выклікаючыя перарыву ў рабоце, рэгіструюцца толькі ў кнігах няшчасных выпадкаў, якія вядуцца на прадпрыемствах.

20. У мясцох будаўнічных работ, аддаленых ад лекавых устаноў, адміністрацыя павінна даваць рабочым, якія патрабуюць мэдыцынскай дапамогі, перавозныя сродкі да бліжэйшага мэдыцынскага пункту.

21. Адміністрацыя павінна выдаваць заработную плату кожнаму рабочаму паасобна, нават і ў тым выпадку, калі работы праводзяцца групамі рабочых.

22. Усім рабочым адміністрацыя павінна выдаваць разьлічковыя кніжкі, у якіх запісваецца атрыманая данным рабочым заработная плата.

23. Вінаватыя ў парушэньні гэтае пастановы прыцягваюцца да адказнасьці ў судовым і адміністрацыйным парадку.

24. Гэтая пастанова павінна быць вывешана на відным месцы, дзе праводзяцца будаўнічыя работы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Загадчык Аддзелу Аховы Працы НКП БССР **Н. Калінін.**

Узгоднена:
з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі: Нам. Заг. Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу Ц. С. П. С. Б. **З. Каган.**
з Прафэсіянальным Саюзам Будаўнічых Рабочых: Старшыня Цэнтральнага Праўленьня **Шоцкі.**

12 красавіка 1927 г.
№ 53.

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР

АБ МЕРАХ ЭКАНАМІЧНАЕ ЎПЛЫВОВАСЬЦІ Ў АДНОСІНАХ ГАНДЛЮЮЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ, ЯКІЯ ПАРУШАЮЦЬ УСТАНОЎЛЕНЫЯ ГРАНІЧНЫЯ НАКІДКІ І ЦЭНЫ НА ТАВАРЫ, А ТАКСАМА, ЯКІЯ ДАПУШЧАЮЦЬ ЗАБАРОНЕНЫ ПЕРАПРОДАЖ НЕВЫСТАРЧАЛЬНЫХ ТАВАРАЎ.

*Гандлёвым арганізацыям, якія робяць гуртавы водпуск невыстарчальных тавараў на тэрыторыі БССР.*

I. У межах упарадкаваньня гандлю невыстарчальнымі таварамі і спыненьня выпадкаў парушэньня гандлюючымі арганізацыямі ўстаноўленых гранічных накідак і цэн на тавары, а таксама выпадкаў забароненага гуртавога перапродажу тавараў, Народны Камісарыят Гандлю БССР прапануе ўсім арганізацыям уключаць у дагаворы (куплі-продажы, камісійныя і інш.), заключаемыя імі з дзяржаўнымі і каапэрайыйнамі гандлёвымі прадпрыемствамі асобныя ўмовы аб праве снабжаючых арганізацый зьвяртацца ў адносінах няспраўных контрагэнтаў да адной з наступных мер эканамічнае ўплывовасьці:

1) Скарачаць тэрмін або памяншаць долі крэдытаваньня;

2) Зачыняць крэдыты;

3) Скарачаць водпуск колькасьці тавараў, якія прадугледжаны ў дагаворы, або часова спыняць іх водпуск;

4) Скасоўваць дагаворы.

*Увага.* У тых выпадках, калі снабжэньне таварамі дзяржаўных і каапэрацыйных гандлёвых прадпрыемстваў робіцца без дагаворнага афармленьня, ад іх павінны брацца падпіскі з абавязацельствам выкананьня патрабаваньняў аб накідках, цэнах і ўстрыманьня ад забароненага перапродажу, пад страхам прыцягненьня іх да паказаных у гэтым артыкуле мер эканамічнае ўплывовасьці.

II. Прыстасаваньне пералічаных у арт. I мер эканамічнае ўплывовасьці зьяўляецца выключна правам снабжаючай арганізацыі, заключыўшай данны дагавор з абавязковаю ўмоваю папярэдняга кожны раз прадстаўленьня Н. К. Ганлю БССР сваіх сьцямленьняў аб мэтазгоднасьці прыстасаваньня канкрэтна намечанай меры.

III. Скарыстаньне снабжаючымі арганізацыямі прадугледжаных у дагаворы мер эканамічнае ўплывовасьці не выключае магчымасьці адначаснага прыцягненьня вінаватых у тых-жа парушэньнях кіраўнікоў і адказных служачых гандлёвых прадпрыемстваў да крымінальнай або дысцыплінарнай адказнасьці з боку органаў урадавай улады.

IV. Усе выпадкі прыстасаваньня мер эканамічнае ўплывовасьці будуць аддавацца самай шырокай агалосцы праз друк з мэтаю прыцягненьня ўвагі грамадзкіх колаў да справы ўпарадкаваньня гандлю і інтарэсу масавага спажыўца да ажыцьцяўленьня нагляду за пільнаваньнем гандлюючымі прадпрыемствамі ўстаноўленых цэн.

V. Прыватныя раздробныя гандляры, паводле пастановы Савету Працы і Абароны за 16 лютага 1927 г., апублік. у „Эконом. Жизни“ № 42 за 20 лютага 1927 г. снабжаюцца таварамі (у тым ліку і дэфіцытнымі) выключна ў плянавым парадку на дагаворных пачатках пры ўмове пільнаваньня імі ўстанаўляемых надбавак і прыняцьця абавязацельства па рэалізацыі атрымліваемых тавараў толькі непасрэдна спажыўцу і ў межах тэрыторыі БССР і па ўстаноўленых Н. К. Гандлю цэнах, для прыватнага гандлю.

*Увага.* Тыповая ўмова паміж снабжаючымі арганізацыямі і прыватнымі гандлярамі распрацоўваецца і ў хуткім часе будзе апублікавана.

Нам. Народнага Камісара Замежнага
і Ўнутранага Гандлю БССР **Брыскін**.

Упаўнаважаны Рэспубліканскай
Камісіі па зьніжэньню цэн **Найдус**.

---

## 12. Пытаньні і адказы.

Запытаньні Астрашыцка-Гарадзецкай раённай зямельнай камісіі за 23 лістапада 1926 г. № 9241:

ПЫТАНЬНЕ **31**. Ці трэба спаганяць і з каго судовую пошліну па справах, якія пачынаюцца сельскімі саветамі аб пазбаўленьні права на карыстаньне зямлёю на падставе арт. 58 Зям. Код.

АДКАЗ. Па справах, якія пачынаюцца на грунце арт. 58 Зям. Код. сельскімі саветамі аб пазбаўленьні права на карыстаньне зямлёю, судовая пошліна не спаганяецца на падставе арт. 31 інструкцыі Н. К. Земляробства, Н. К. Юстыцыі, і Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Грашовых Спраў за 20 мая 1926 г. аб парадку спагнаньня судовае пошліны зямельнымі камісіямі.

ПЫТАНЬНЕ **32**. Што трэба рабіць у тым выпадку, калі народным судом перадана ў раённую зямельную камісію справа па іску члена непадзельнага двара аб выдзеле часткі будынкаў, інвэнтару і іншае маемасьці без зямлі для разгляду гэтае справы ў парадку арт. 84 Зям. Код. і вызначэньня ісцу сплат, між тым як паданы іск не падлягае разгляду зямельнае камісіі.

АДКАЗ. Атрымаўшы ад народнага суду справу па іску члена двара аб выдзеле часткі маемасьці з непадзельнай гаспадаркі для разгляду гэтае справы ў парадку арт. 84 Зям. Код., раённая зямельная камісія павінна высьветліць, ці жадаеісьцец выйсьці са складу двара, атрымаўшы сплату. Калі ісьцец просіць аб гэтым, зямельная камісія разглядае справу па сутнасьці паводле арт. 84 Зям. Код., а калі ісьцец ня хоча выйсьці са складу непадзельнае гаспадаркі з атрыманьнем з яе сплаты, яна спыняе справу, калі ў наяўнасьці няма акалічнасьцяй, прадугледжаных тлумачэньнем 3-ім журналу № 19 распарадчага паседжаньня Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю за 12 кастрычніка 1926 году. (Пытаньне і адказ № 142, Бюл. СНК 1926 г. № 15 (24), стар. 37).

Запытаньне Бабруйскай акруговай зямельнай камісіі за 26 лістапада 1926 г. № 13649:

ПЫТАНЬНЕ **33**. Ці можа земляўпарадчык пры ўнытрывясковым земляўпарадкаваньні залічыць у склад мясцовага запаснага фонду грамадзкі выган для разьмеркаваньня яго сярод двароў тае-ж зямельнае грамады, якія маюць права на надзяленьне зямлёю па мінімальнай норме.

АДКАЗ. Калі зямельная грамада ня мае лішніх земель звыш вызначаных норм, дык нельга залічыць належачы да яе выган у запасны фонд.

Запытаньне Віцебскай акруговай зямельнай камісіі за 29 лістапада 1926 г. № 14448:

ПЫТАНЬНЕ **34**. Ці спаганяецца судовая пошліна наогул, а калі спаганяецца, дык з каго і ў якім разьмеры, паісках раённага выканаўчага камітэту аб скасаваньні арэнднага дагавору на суму звыш 1000 руб. пры аддачы ў арэнду дзяржаўнае зямельнае маемасьці прыватнай асобе і цаной звыш 3000 руб. пры аддачы ў арэнду гэтае маемасьці дзяржаўнай установе альбо прадпрыемству, калі дагавор гэты, як незасьведчаны ў натарыяльным парадку, прызнан нядзейным акруговаю зямельнаю камісіяй.

АДКАЗ. Іск, які прад'яўляецца раённым выканаўчым камітэтам аб скасаваньні дагавору на аддачу ў арэнду дзяржаўнае зямельнае маемасьці, не аплачваецца судоваю пошлінай паводле арт. 43 Гр. Пр. Код. і арт. 31 інструкцыі за 20 мая 1926 г. аб парадку спагнаньня судовых пошлін зямельнымі камісіямі. Калі ў гэтым іску пастановай зямельнай камісіі раённага выканаўчага камітэту адмоўлена, а дагавор па фармальных падставах прызнаны нядзейным, то па сутнасьці справа прайграна абедзьвюма старанамі. Для таго, што судовая пошліна зьяўляецца адплатай выдаткаў дзяржавы, артыкул -жа 31 інструкцыі звальняе ад узносу пошліны ня справы, а толькі некаторыя катэгорыі ісцоў, то на адказчыка, нязвольненага ад аплаты судовае пошліны, павінна быць ускладзена аплата яе ў парадку арт. 10. Інструкцыі, з прайгранай ім часткі іску, прычым цана іску вызначаецца ня сумаю арэнднай платы па нядзейнаму дагавору, а прысуджанай на карысьць ісца сумай у выніку звароту старон у першапачатковае становішча з залікам выдаткаў адказчыка па здаволенай частцы яго сустрэчнага іску.

Запытаньне Барысаўскай акруговай зямельнай камісіі за 30 лістапада 1926 г. № 1511:

ПЫТАНЬНЕ **35**. Ці карыстаецца працоўная земляробчая гаспадарка правам на аддачу зямлі ў арэнду пры самахвотным (не па выбарах) паступленьні яе членаў на дзяржаўную або грамадзкую службу.

АДКАЗ. На падставе арт. 27 Зям. Код. працоўная земляробчая гаспадарка, аслабшая ў выніку часовага адыходу яе членаў на працоўныя заработкі, карыстаецца правам аддачы ў арэнду зямлі з захаваньнем паказаных у законе ўмоў.

Працоўнымі заработкамі лічыцца ўсякая работа па найму ў якасьці рабочага ці служачага. Для гэтага часовае паступленьне членаў двара на дзяржаўную або грамадзкую службу не па выбарах дае двару права на аддачу зямлі ў працоўную арэнду.

Пры гэтым, аднак, трэба мець на ўвазе, што на падставе арт. арт. 16 і 73 Зям. Код. члены двара, якія адыйшлі на працоўныя заработкі і не падтрымлівалі сувязі з гаспадаркай ні працай сваёй ні сродкамі, трацяць па скончэньні 6 год права на зямлю і іншую маемасьць гаспадаркі, у якой ня было правільнага севазвароту. Для гэтага ў выпадку аддачы зямлі ў арэнду такой гаспадаркай на 12 год і адходу потым усіх яе членаў на працоўныя заработкі, двор па сканчэньні 6 год траціць права на адданую ў арэнду зямлю. Усе правы здатчыка пераходзяць у гэтым выпадку да зямельных органаў, правы-ж арандатара, які пільнуе ўмовы дагавору, захоўваюцца да сканчэньня яго тэрміну.

## Запытаньне Менскай акруговай зямельнай камісіі за 6 сьнежня 1926 г. №№ 15263 і 18234:

ПЫТАНЬНЕ **36.** Ці падлягаюць разгляду раённае зямельнае камісіі пастановы зямельнае грамады, калі яны нікім не абскарджаны? Усе такія пастановы сельскія саветы перасылаюць у раённую зямельную камісію. Калі-ж апошняя разглядаць іх не абавязана, дык гдзе яны павінны хавацца?

АДКАЗ. Пастановы сходу зямельнае грамады нікім, наогул, не зацьвярджаюцца і набываюць законную сілу з моманту напісаньня іх і подпісу старшынёй, сэкратаром агульнага сходу і большасьцю яго ўдзельнікаў. Толькі прыгавары аб пераходзе да агульнае апрацоўкі зямлі (арт. 108), аб выдзелах часткі двароў з грамады і ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні (арт. 123), аб складаньні і ліквідацыі зямельнае грамады, а таксама аб зьмене яе статуту (арт. 48), ажыцьцяўляюцца пасьля рэгістрацыі іх у зямельных органах. Выкананьне прыгавару, не падлягаючага рэгістрацыі, прыпыняецца толькі пры абскарджаньні яго кім-небудзь з зацікаўленых асоб у двухтыднёвы тэрмін з дня вынясеньня прыгавару, альбо пры апратэставаньні яго зямельнымі органамі.

Самым блізкім да насяленьня органам савецкай улады зьяўляецца сельскі савет. На яго ўвагай да арт. 54 Зям. Код. ўскладзена нагляданьне за правільным ужываньнем законаў зямельнаю грамадою. Сельскі савет перш за ўсе наглядае за законнасьцю пастаноў сходу, бо зямельная грамада ўсе пытаньні, якія датычацца яе, разьвязвае на сходзе. У выпадку прызнаньня прыгавару незаконным, сельскі савет апратэстоўвае яго ў раённую зямельную камісію. Нельга адмяняць прыгавару сходу ў адміністрацыйным парадку для таго, што на падставе арт. 199 Зям. Код. скаргі на прыгавары сходу разглядаюцца раённаю зямельнаю камісіяй. Прыгавары-ж сходу нікім не абскарджаныя разгляду зямельных камісіяй не падлягаюць. Тыя прыгавары, для правадзейнасьці якіх не патрэбна абавязковая іх рэгістрацыя, хаваюцца ў сельскім савеце, усе іншыя —у рэгістрацыйным органе.

ПЫТАНЬНЕ **37.** Як павінна паступіць зямельная камісія, калі па справе яе аб сямейна-маемасным падзеле двара стораны заяўляюць што яны пагадзіліся, просяць пацьвердзіць іх умову і спыніць справу?

Ці можна ў гэтым выпадку пацьвердзіць міравую, маючы на ўвазе, што пастановай Савету Народных Камісараў БССР за 10 красавіка 1925 г. прыпынена рэгістрацыя дабравольных падзельных запісаў.

АДКАЗ. Пастановай Савету Народных Камісараў БССР за 10 красавіка 1925 г. прынена рэгістрацыя раённымі выканаўчымі камітэтамі падзельных запісаў, якія прадугледжаны арт. 76 Зям. Код., і дапушчаны ў выключных выпадках судовыя падзелы. Калі наяўнасьць выключных выпадкаў устаноўлена па справе і апошняя прынята зямельнаю камісіяй да судовага справавядзеньня, справа разглядаецца з захаваньнем інструкцыі за 11 сьнежня 1925 г. На грунце-ж арт. 88 і 89 гэтай інструкцыі стораны павінны прыводзіцца да замірэньня, якое, наогул, дапушчаецца ва ўвесь час вядзеньня справы. У выпадку замірэньня старон у пасяджэньні зямельнае камісіі, апошняя, праверыўшы і прызнаўшы ўмову гаспадарча-мэтазгоднай, зацьвярджае яе і спыняе справу, калі ўмова ня мае на мэце атрыманьня падатковых і па абавязковай ваеннай службе льгот, а таксама калі яна не вядзе да падзелу недрабімага двара. Рэгістрацыя-ж раённаю зямельнаю камісіяй хатніх падзельных запісаў не дапушчаецца.

ПЫТАНЬНЕ **38**. Хто павінен плаціць судовую пошліну паісках аб падзеле двара ў тым выпадку, калі стораны згодны на падзел, які выклікаецца выключнымі акалічнасьцямі, але ня могуць аформіць яго, дзеля таго, што рэгістрацыя дабравольных падзелаў прыпынена.

АДКАЗ. На грунце арт. 2 Інструкцыі аб парадку спагнаньня судовых пошлін зямельнымі камісіямі за 20 мая 1926 г. судовая пошліна па справе аб сямейна-маемасным падзеле двара спаганяецца зямельнаю камісіяй з ісца пры падачы ім заявы ў разьмеры ад 1 да 10 руб. Пошліна гэтая ісцу пры спыненьні справы пасьля замірэньня старон не зварачаецца.

Адказы на пытаньні №№ 31—38 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Н. К. Земляробства БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 22 сакавіка 1927 г. № 24).

### Запытаньне Сэкратара Народнага Суду 6 вуч. Полацкае акругі па прапанове Рэдакцыі Бюлетэню СНК за 13 сьнежня 1926 г. № 5001:

ПЫТАНЬНЕ **39**. Ці мае права пляменьніца, прынятая сваім дзядзькам у склад сялянскага двара, на маемасьць і зямлю пасьля сьмерці дзядзькі, калі апошні пражыў з ёю толькі адзін год. Хто ў гэтым выпадку павінен разабраць справу, калі камітэт узаемадапамогі, даведаўшыся аб сьмерці гаспадара, узбуджае іск аб перадачы яму маемасьці, а пляменьніца просіць аб прызнаньні яе членам двара.

АДКАЗ. На грунце арт.арт. 64, 70 і 79 Зям. Код. асобы, якія ўваходзяць у склад сялянскага двара, набываюць у ім з моманту ўваходу права на маемасьць і зямлю. Іск камітэту ўзаемадапамогі аб прызнаньні працоўнае земляробчае гаспадаркі вымершай падлягае разгляду раённай зямельнай камісіі.

## Запытаньне Бабруйскай акруговай зямельнай камісіі за 18 сьнежня 1926 г. № 559:

ПЫТАНЬНЕ **40**. Ці маюць права аддаваць зямлю ў арэнду такія сяляне, якія зьліквідавалі сваю гаспадарку і выехалі не ў парадку плянавага перасяленьня за межы БССР, дзе атрымалі зямлю ці пачалі весьці гаспадарку разам з сваімі родзічамі.

АДКАЗ. Калі двор па тых ці іншых прычынах зусім перастае весьці сельскую гаспадарку і траціць у зьвязку з гэтым на грунце пункту „б“ арт. 17 Зям. Код. права працоўнага карыстаньня зямлёю, аддача яе ў арэнду не дазваляецца. Выключэньне робіцца толькі для перасяленцаў, якія атрымліваюць зямлю ад дзяржавы на новых мясцох у парадку арт. 191 Зям. Код. Перасяленцы, як плянавыя, так і няплянавыя могуць сваю зямлю аддаваць у арэнду на тэрмін ня звыш 3 гадоў, калі прадставяць пасьведчаньне зямельнага органу аб залічэньні за імі зямлі па месцу перасяленьня.

## Запытаньне Полацкага Акруговага Аддзелу Грашовых Спраў за 20 сьнежня 1926 г. № 3110:

ПЫТАНЬНЕ **41**. Якія землі павінны лічыцца гарадзкімі, пакуль ня будзе на месцы дакладна вызначана гарадзкая мяжа ў парадку земляўпарадкаваньня.

АДКАЗ. Пакуль ня будзе адведзена на месцы гарадзкая мяжа ў парадку земляўпарадкаваньня паводле арт. 128 Зям. Код., гарадзкімі лічацца землі, якія 1-га мая 1923 г. ў старой Меншчыне і 1-га жніўня 1922 г. ў пашыранай БССР былі ў распараджэньні гарадзкога савету, гэта значыць: а) забудаваныя кварталы гораду з садамі і агародамі, вуліцы і пляцы; б) усе землі, якія прылягаюць да гэтых кварталаў, калі яны да рэвалюцыі былі ўласнасьцю гораду і ня былі потым зямельнымі органамі перададзены каму небудзь у сталае працоўнае карыстаньне раней паказаных тэрмінаў; усе, наогул, незабудаваныя землі, якія прылягаюць да паказаных кварталаў, а таксама сядзіба гарадзкіх слабод і паселішч, калі землі гэтыя і сядзібы знаходзіліся ў веданьні органаў камунальнае гаспадаркі (1-га жніўня 1922 г. і 1-га мая 1923 г.).

## Запытаньне Калінінскай акруговай зямельнай камісіі за 27 сьнежня 1926 г. № 10899:

ПЫТАНЬНЕ **42**. Ці мае права склад зямельнае камісіі, якая разглядае спрэчную справу на месцы па заяве старон альбо па пачыну самое камісіі, на атрыманьне сутачных грошай у вызначанай частцы месячнае пэнсіі, бо ў інструкцыі за 20 мая 1926 г. паказана, што выдаткі па вядзеньню справы спаганяюцца са старон зямельнаю камісіяй ў выпадку выезду яе на месца, але ня вызначана, з чаго гэтыя выдаткі складаюцца.

АДКАЗ. На грунце арт. 45 Гр. Пр. Код. і арт. 25 інструкцыі аб парадку спагнаньня судовых пошлін зямельнымі камісіямі, апошнія пры мясцовым аглядзе маюць права толькі на аплату кошту праезду свайго складу стараною, якая прасіла аб аглядзе. Калі-ж мясцовы агляд па спрэчнай зямельнай справе робіцца па пачыну самое зямельнае камісіі, дык патрэбныя на праезд яе складу грошы ўносяцца наперад у роўных частках абедзьвюма старанамі.

## Запытаньне Чарэйскага раённага выканаўчага камітэту за 6 студзеня 1927 г. № 146:

ПЫТАНЬНЕ **43**. Ёсьць распараджэньне не затрымліваць перасяленцаў. Якім чынам можна хутка зрабіць рэгістрацыю ўмовы аб продажу перасяленцамі будынкаў з астаўленьнем іх на месцы, калі згодна тлумачэньню Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю (журнал № 15, тлумачэньне 4—Бюл. СНК, 1926 г. № 11 (20) ст. 65, пытаньне і адказ 118) прадаць такім спосабам будынкі можна толькі таму, хто атрымлівае ў парадку надзяленьня ад зямельных органаў сядзібу пад будынкамі. Надзяленьне-ж патрабуе многа часу, бо яно павінна прайсьці стадыі складаньня земляўпарадчага праэкту, прад'яўленьня яго і разгляду зямельнымі камісіямі.

АДКАЗ. Умова аб продажу працоўным землякарыстальнікам належачых яму будынкаў з пакіданьнем іх для скарыстаньня на месцы можа быць зарэгістравана раённым выканаўчым камітэтам толькі ў тым выпадку, калі раённы выканаўчы камітэт прызнае, што пакупшчык будынкаў мае права на надзяленьне зямлёю ў першую чаргу паводле арт. 10 Зям. Код., пасьля чаго прызнаньне гэтае будзе аформлена ў парадку землянадзяленьня.

## Запытаньне Бабруйскага пададдзелу Мэліарацыі Акр. Зям. Аддзелу за 12 студзеня 1927 г. № 305:

ПЫТАНЬНЕ **44**. Ці можна па справе аб унутрывясковым земляўпарадкаваньні павялічыць мінімальную норму, пакінуўшы бяз зьмены норму максымальную.

АДКАЗ. Пры земляўпарадкаваньні павінны, наогул, ужывацца нормы, якія прадугледжаны абежнікам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 6 красавіка 1925 г. № 17. Падвышэньне і паніжэньне іх дапушчаецца толькі ў выключных выпадках пры наяўнасьці важных для гэтага падстаў. Абежнікам Народнага Камісарыяту Земляробства за 28 ліпеня 1926 г. № 18 вызначаны неаднолькавыя проценты для падвышэньня і для паніжэньня мінімальнай і максымальнай норм. Такім чынам мінімальная норма можа не складаць палавіны максымальнае, а, значыць, магчыма падвышэньне мінімальнае нормы з пазастаўленьнем максымальнае нормы бяз зьмены.

## Запытаньне Полацкага Акруговага Зямельнага Аддзелу (пры адносіне Кіраўмэліазему за 13 студзеня 1927 г. № 3):

ПЫТАНЬНЕ **45**. Хто, у зьвязку з правядзеньнем работ па складаньню падворных сьпіскаў, павінен рабіць публікацыю ў газэтах аб бязьведама адсутнічаючых, бо нельга без канца лічыць іх у бязьведамай адсутнасьці, ня ўзбуджаючы пытаньня аб прызнаньні памершымі.

АДКАЗ. Публікацыю ў газэтах аб бязьведама адсутных землякарыстальніках робіць народны суд. Для зямельных органаў неабходнасьць узбуджэньня ў народным судзе пытаньня аб прызнаньні асобы бязьведама адсутнай узьнікае ў мэтах правільнага вядзеньня падворных сьпіскаў, а таксама аховы маемасьці, якою аддзельна карысталася адсутная асоба. Калі-ж апошняя ўваходзіць у склад сялянскага двара, у агульным карыстаньні якога знаходзіцца яе маемасьць, дык. пытаньне аб прызнаньні яе бязьведама адсутнай, а потым і памершай, узбуджаецца зацікаўленымі на атрыманьне гэтае маемасьці асобамі.

Пры складаньні сельскім саветам падворных сьпіскаў у іх адзначаюцца і адсутныя, але ня выступіўшыя са складу двара яго члены, прычым у сьпісках супроць адсутных азначаюцца падставы і час іх адсутнасьці, бо паводле арт. арт. 16 і 73 Зям. Код. няпрыняцьце ўдзелу члена, які пашоў на працоўныя заработкі, у гаспадарцы больш 2 севазваротаў, а пры адсутнасьці правільнага севазвароту— больш 6 гадоў, ні працай сваей ні сродкамі, выклікае для яго страту права на зямлю і іншую маемасьць у складзе двара. З прычыны гэтага неабходнасьць узбуджэньня справы аб прызнаньні асобы бязьведама адсутнай, а потым і памершай, можа для зямельных органаў узьнікнуць толькі ў адносінах да тых членаў двара, якія на грунце арт. 16 Зям. Код. павінны лічыцца ў складзе двара колькі-б ні цягнулася іх адсутнасьць.

## Узьнікшае ў практыцы Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю пытаньне:

ПЫТАНЬНЕ **46**. Ці ўваходзіць у законную сілу пастанова раённае зямельнае камісіі аб адабраньні лішкаў зямлі з карыстаньня буйнае гаспадаркі, калі пастанова гэтая ні кім неабскарджана ў вызначаны законам тэрмін.

АДКАЗ. Адабраньне лішкаў зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак робіцца цяпер толькі ў парадку земляўпарадкаваньня. Усякая без выключэньня земляўпарадчая справа, якая разглядаецца раённаю зямельнаю камісіяй, пасылаецца ёю на падставе ўвагі 2 да арт. 199 Зям. Код. на канчатковае разьвязаньне ў акруговую зямельную камісію. З прычыны гэтага нікім неабскарджаная пастанова раённае зямельнае камісіі па справе аб абрэзцы буйнае гаспадаркі не ўваходзіць ў законную сілу, пакуль ня будзе разгледжана справа акруговай зямельнай камісіяй.

Адказы на пытаньні №№ 39—46 даюцца Асобай Калегіяй Вышэйшага Кантролю па спрэчных Зямельных Справах пры НК Земляробства БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 22 сакавіка 1927 г № 25).

---

## 13. Аб ажыўленьні Саветаў.

*(У парадку абмеркаваньня).*

У Бюлетэні СНК за 15 сакавіка г. г. № 6(31) быў надрукаваны арт. П. Новікава „Ажыўленьне Саветаў".

Трэба адзначыць, што гэты артыкул заслугоўвае ўвагі і павінен абмяркоўвацца ня толькі на старонках Бюлетэню, але і на старонках нашага друку наогул.

Ажыўляць саветы—гэта значыць, усё больш прыцягваць працоўныя масы да савецкага будаўніцтва краіны, што зьяўляецца аднэй з грунтоўных задач Камуністычнай партыі і савецкае ўлады. Перад намі стаіць пытаньне аб адшуканьні тых мэтадаў і форм, пры дапамозе якіх магчыма было-б прыцягваць насяленьне да гэтага будаўніцтва, асабліва ў сельскіх мясцовасьцях.

Для ўцягненьня і непасрэднага ўдзелу насяленьня ў савецкім будаўніцтве пры ўсіх сельскіх і местачковых саветах былі арганізаваны камісіі. Гэта зьявілася і павінна зьяўляцца адным з грунтоўным мерапрыемстваў па ажыўленьні саветаў. Гэтыя камісіі зьяўляюцца пачатковымі школамі нашага савецкага будаўніцтва, у якіх насяленьне вучыцца, як трэба будаваць новае жыцьцё і разам з гэтым як узмацняць саветы. Вось чаму пытаньне аб камісіях зьяўляецца асяродкам для абмеркаваньня пытаньня аб ажыўленьні саветаў. Трэба сказаць, што камісіі наогул працуюць слаба. Ужо прайшло 2 гады з часу арганізацыі камісій, а ў некаторых сельскіх саветах яны яшчэ правільна не аформлены, не гаворачы ўжо аб іх працы.

Галоўнымі прычынамі слабай працы камісій трэба прызнаць:

а) слабае кіраўніцтва выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў працаю камісій і невыстарчальнасьць увагі гэтым камісіям;

б) бясплянавасьць і бяссыстэмнасьць у працы;

в) незацікаўленасьць у працы членаў саветаў і саміх членаў камісій;

г) некаторыя сельскія саветы няправільна кіруюць камісіямі і немэтазгодна іх скарыстоўваць, напрыклад, калі трэба рамантаваць дарогу або мост, то сельскі савет лічыць, што гэта павінна рабіць камісія па дабрабыту, не бяручы пад увагу, што камісія павінна толькі распрацаваць пытаньне, а выкананьне яго павінна праводзіцца ў агульным парадку.

Для далейшага ажыўленьня саветаў (у паасобку сельскіх саветаў і іх камісій) трэба правесьці наступныя канкрэтныя мерапрыемствы:

1) Перш за ўсё трэба зрабіць некаторую рэарганізацыю выканаўчых камітэтаў, з аднаго боку—узмацніць арганізацыйныя часткі акруговых выканаўчых камітэтаў і з другога—у раённых выканаўчых камітэтах зрабіць рэарганізацыю праз перадачу органам міліцыі спраў адміністрацыйнага характару. Калі гэта будзе праведзена ў жыцьцё, то выканаўчым камітэтам будзе дадзена больш магчымась-

цяй па кіраўніцтву саветамі, у паасобку, па ажыўленьні дзейнасьці гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў, бо ў сувязі з няўмелай пастаноўкай працы і перагружанасьцю саміх выканаўчых камітэтаў нельга поўнасьцю ажыцьцяўляць кіраўніцтва над саветамі; таму і трэба скласьці належныя ўмовы і прыстасаваць наш арганізацыйны апарат да поўнага кіраваньня ніжэйшымі органамі ў галіне савецкага будаўніцтва.

2) Зрабіць канчатковае афармленьне камісій там, дзе яны яшчэ не аформлены.

3) Належныя камісіі прыстасаваць да належных частак і ўстаноў раённага выканаўчага камітэту, каб яны імі кіравалі і давалі напрамак у працы. У раёне, напрыклад, працай сельска-гаспадарчай камісіі павінна быць зацікаўлена ня толькі зямельная частка раённага выканаўчага камітэту, але і акруговы зямельны аддзел і нават —Народны Камісарыят Земляробства. Такім чынам можна будзе зрабіць поўную ўвязку працы ад сельскага савету да народнага камісарыяту па ўсіх галінах.

4) Увесьці ў працу камісій плянавасьць і сыстэму, пры гэтым паасобных пляноў для камісій складаць ня трэба, а праца камісій павінна быць поўнасьцю прадугледжана плянам раённага выканаўчага камітэту і сельскага савету. Пляны трэба складаць канкрэтныя і не абмяжоўвацца агульнымі выразамі „усіліць“, „паглыбіць“ і г. д.

5) Наладзіць жывую сувязь па кіраўніцтву саветамі і іх камісіямі праз склікаваньне нарад і г. д., а не праз цыркуляры, як гэта ёсьць цяпер.

Апрача ўсяго гэтага партыйным і камсамольскім арганізацыям на мясцох трэба больш зварочваць увагі на працу саветаў для іх ажыўленьня.

Толькі пры такіх умовах мы ажывім саветы, уцягнем у іх працу насяленьне і больш хутка пойдзем па шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

9/IV—1927 г.
г. Магілёў, АВК.

**Я. Збуржынскі.**

---

## 14. Аб пчалярстве ў БССР.

Пчалярства ў БССР разьвіта вельмі слаба. Яно мае пераважна прымітыўны характар, пчалярскія пасекі зьяўляюцца вельмі дробнымі і мала даходнымі. Толькі некаторую даходную частку пчалярства складае ў Калінінскай і Магілёўскай акругах. Але вельмі спрыючыя натуральныя ўмовы Беларусі (параўнаўча высокая лясістасьць, значная плошча пад меданоснымі расьлінамі і г. д.) даюць падставу і магчымасьць для разьвіцьця пчалярства ў БССР.

Паводле данных у 1926 г. налічвалася 128.230 сямей пчол, з іх у калодах—91.423 сям'і і рамавых вульлях—36.807 сямей.

Для разьвіцьця пчалярства Савет Народных Камісараў нядаўна выдаў пастанову „Аб палёгках разьвіцьцю пчалярства ў БССР“.

Гэтаю пастановаю ўстанаўляецца, што пасечныя гаспадаркі грамадзян, якія вядуць гэтыя гаспадаркі сваёю працаю і працаю членаў сваёй сям'і, лічацца працоўнымі, незалежна ад ліку вульляў. На пасечныя гаспадаркі пашыраюцца агульныя законы аб ужываньні дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках.

З правядзеньнем земляўпарадкаваньня на мясцох часта ўзьнікаюць пытаньні аб тым, ці можна селяніна, які мае пасеку, пакінуць пры расьсяленьні на яго сядзібе, ці можна выселіць яго ў чыстае поле. Пастановаю СНК гэтае пытаньне вырашаецца так, што пры земляўпарадкаваньні пчаляр, у якога ёсьць працоўная пасека, мае права застацца на месцы або атрымаць новую сядзібную дзялянку ў мясцовасьці з найбольш спрыяючымі для пчалярства ўмовамі. Калі немагчыма зрабіць пасеку з надзелу пчаляра ў сядзібе, то для пасекі дазваляецца выдзяляць асобную дзялянку, на якой не павінны будавацца сельска-гаспадарчыя будынкі.

Далей, самыя лепшыя ў адносінах мёдазбору месцы ў Беларусі ў большасьці акругаў для пчалярства зусім прападаюць. У паўднёвых акругах яны часткова выкарыстоўваюцца для так званага „борцевога“ пчалярства (Мазырская, Бабруйская і іншыя акругі). Такое становішча было нармальным пры старым рэжыме, калі большая частка зямель і лясоў знаходзілася ў абшарнікаў. Цяпер, калі ўся зямля належыць працоўным, зьявілася патрэба даць магчымасьць перайсьці гэтаму віду пчалярства на больш культурнае рацыянальнае пчалярства (рамачнае).

Паводле пастановы пчалярскія каапэрацыйныя аб'яднаньні, таварыствы, арцелі і прыватныя ўласьнікі пасек, уваходзячыя ў пчалярскія аб'яднаньні, маюць права атрымоўваць дзялянкі зямлі пад пасекі і для пасеву мёданосных расьлін у дзяржаўных лясох і на землях з запаснага фонду ў парадку, які ўстанаўляецца Народным Камісарыятам Земляробства.

Лясныя матар'ялы, патрэбныя на рамачныя вульлі, даюцца пчаляром, маючым працоўную пасеку і ўваходзячым у пчалярскія аб'яднаньні, па таксах, устаноўленых для сялян.

Для зьнішчэньня крадзяжу сем'яў пчол пастановаю ўстанаўляецца, што вінаватыя ў крадзяжы пчол і ў наўмысным зьнішчэньні або ў папсаваньні пасек, у залежнасьці ад характару злачынства, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. арт. 180 і 196 Крымінальнага Кодэксу БССР, г. зн. караюцца як за крадзеж маемасьці пазбаўленьнем волі на тэрмін ад 6 месяцаў да 3-х год.

Народнаму Камісарыяту Земляробства і Народнаму Камісарыяту Унутраных Спраў даручана распрацаваць інструкцыю для ўжываньня гэтае пастановы.

**А. М.**

---

## 15. Як палепшыць вэтэрынарна-санітарнае становішча разьніц*).

Мяса жывёлы, нярэдка ўтрымліваючы ў сабе заразу, можа выклікаць сярод людзей шмат усякіх небясьпечных захварэньняў. Сапраўды, трэба было-б зрабіць так, каб усё мяса папярэдня аглядалася вэтэрынарным наглядам на разьніцах. Там толькі і можна ўпэўніцца ў яго якасьці. Але гэта будзе тады, калі сетка разьніц густа пакрые ўсю нашу Рэспубліку, тады ня будзе ніводнага куска неагледжанага мяса.

*) Друкуецца ў парадку абмеркаваньня.

Але мала знайсьці заражанае мяса. Трэба яшчэ зьнішчыць бракованае мяса і ня даць зьесьці яго нават жывёле, асабліва сабакам, якія зьяўляюцца галоўнымі разносчыкамі скаціных хвароб. Нядарма ёсьць замежная прыказка: „Адкрый нутро першай спаткаўшайся сабакі ў горадзе і ты пазнаеш санітарны дабрабыт гэтага гораду“. Але і зьнішчэньне заражанага мяса мажліва толькі пры здавальняючай колькасьці разьніц. Мы-ж маем іх так мала і вэтэрынарны нагляд за імі так слаб, што ў нас, прыблізна, толькі 20 проц. мяса прадаецца агледжаным, астатняе-ж ужываецца без агляду. Значыцца, разнос заразы ідзе ваўсю. Нават з таго, што выносіцца на базары і рынкі, аглядаецца толькі процантаў да 60—70. З мяса-ж, перавазімага па ўсякіх шляхох, аглядаецца толькі да 30 проц.

Агляд на разьніцах і забойных пунктах БССР ў 1925-26 справаздачным годзе выявіў 77.883 галоў заражанай скаціны з агульнага ліку ў 355.023 галоў, г. з. 21,94 проц. Зусім зьнішчана было 190 туш, заражаных рознымі хваробамі. А колькі жывёлы было зарэзана насяленьнем у сябе дома і зьедзена без вэтэрынарнага агляду. Значна большая колькасьць, чым на ўсіх нашых разьніцах і зарэзных пунктах!

Але ня толькі ў нас гэта справа знаходзіцца ў такім становішчы. У іншых рэспубліках Саюзу—тое самае. Так стаіць справа ня толькі таму, што няма сродкаў на пабудову разьніц. Ва многіх выпадках адсутнічае здаровы погляд на разьніцы. Замест пашырэньня і палепшаньня разьнічнай сеткі за рахунак яе даходаў, гэтыя даходы ідуць на пабудову маставых, каналізацыі і інш. Адным словам, на што падабаецца, толькі не на санітарыю. Адсутнічае адзіная разьнічная палітыка, няма правільнага кіраваньня. Камунальныя гаспадаркі, камбінаты і інш., за якімі лічацца разьніцы, мала зацікаўлены ў разьнічнай справе, як справе санітарнай. Ім трэба з разьніц выдабываць грошы на бягучыя рахункі, і ня важна, з іх пункту погляду, што толькі 20 проц. мяса бясьпечна для ўжываньня. Пагэтаму, шмат разьніц не адбудоўваецца, руйнуецца, і зусім ня маюць выгляду санітарных устаноў.

Правільная пастаноўка разьнічнай справы важна яшчэ па другой прычыне. З разьніц выпушчаюцца на замежны рынак скуры, кішкі і інш. прадукты. Гэтыя тавары маюць вялікае значэньне ў нашым экспарце. Але за-межамі іх прымаюць толькі тады, калі яны дабраякасны, што можа быць толькі пры добрай пастаноўцы разьнічнай справы. Ды і наогул заграніца бярэ толькі скуры і кішкі разьнічнага пахаджэньня. Пры адсутнасьці адзінай палітыкі кожсындыкат ніяк ня можа дабіцца ўпарадкаваньня справы са здыманьнем скур. Кішпрамгандаль ня мае мажлівасьці цалкам заўладаць рынкам. Напрыклад, па вылічэньню Ленінградзкага Кожсындыкату, брак скур даходзіць да 20 проц. ад няўмелага здыманьня іх. Прэміі забойцам, якія раздаюцца Кожсындыкатам, не дапамагаюць. Пры існуючым парадку толькі 20 проц. скур і кішак могуць быць экспартным таварам.

Губ. Зямельныя Аддзелы Ленінграду, Н.-Ноўгараду, Тамбова і інш. ўжо зразумелі, што з разьніцамі справа стаіць няважна і пачалі яднаць усю разьнічную справу ў зямельных органах, зацікаўленых і ў пашырэньні замежнага рынку для сялянскага сырья і ў ахове жывёлы ад заразы.

Н. К. Земляробства БССР па Вэтэрынарнаму Кіраўніцтву таксама лічыцца неабходным аб'яднаньне ўсёй разьнічнай справы ў сва-

ім веданьні, але пакуль што далей гэтага справа ня ідзе. І зразумела, што на мясцох гэта пытаньне вырашаюць пасвойму. Трэба ўсім акруговым выканаўчым камітэтам стаць на гэты шлях і супольна пачаць працу па правільнай пастаноўцы разьнічнай справы.

Адсюль прапановы: папершае, трэба аб'яднаць усю разьнічную справу ў веданьні Нар. Кам. Земляробства і зямельных органаў на мясцох, за выключэньнем асабліва вялікіх разьніц; падругое, надаць разьнічнай палітыцы больш санітарны кірунак і патрэцяе—прадаставіць аб'яднанай разьнічнай справе крэдыты, хоць-бы і кароткатэрміновыя.

Высоўваючы гэтыя прапановы па пытаньню аб палепшаньні вэтэрынарна-санітарнага становішча нашых разьніц і зарэзных пунктаў, мы просім зацікаўленыя ўстановы выказацца па закранутым пытаньні.

Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**